www.nv-online.info

№ 19 (4066)

11 сакавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЕС–БЕЛАРУСЬ



# На стары мазоль

Няцяжка здагадацца, што зусім не гэтага візіцёра чакалі ў Мінску пасля адмены візавых санкцый з боку Еўрапейскага Саюза. Столькі было размоў, што Еўропа нарэшце выпраўляе памылкі, што перагледзела свой погляд на Беларусь, пераасэнсавала, адумалася… Але першы візіцёр з Бруселя прыехаў не з чамаданам прапаноў аб эканамічным і палітычным супрацоўніцтве, а з тым, каб зноў наступіць беларускай уладзе на стары мазоль.

8 сакавіка з афіцыйным візітам у Беларусь прыбыў спецыяльны прадстаўнік Еўрапейскага Саюза па правах чалавека **Стаўрас Ламбрынідзіс**. Прычым прыляцеў не з бліц-візітам, а з візітам шматдзённым, грунтоўным. Сёння, напрыклад, у спадара Ламбрынідзіса павінна адбыцца сустрэча з міністрам інфармацыі Ліліяй Ананіч, на якой будзе абмяркоўвацца праблема свабоды СМІ.

З Аляксандрам Лукашэнкам спадар Ламбрынідзіс ужо сустрэўся.

З тэлевізійных справаздач аб гэтай сустрэчы можна было зрабіць выснову, што Аляксандр Лукашэнка ўвогуле не разумее, якія тут могуць быць праблемы, што абмяркоўваць і якое дачыненне тая ж свабода слова мае да правоў чалавека. Па крайняй меры на тэлекамеры ён зноў дэманстраваў сваё вельмі своеасаблівае стаўленне да гэтай праблематыкі. Лукашэнка, па сутнасці, пацвердзіў пазіцыю, якую адстойвае ўжо шмат гадоў: у нас свой погляд на правы чалавека, галоўнае права – гэта права на жыццё, а ў Беларусі людзі апранутыя, абутыя, не галодныя і не ваюць… Значыць, усё добра, адчапіцеся нарэшце ад нас!

Праўда, аднак, у тым, што, згодна з міжнародным заканадаўствам і прынятымі нормамі суіснавання краін, правы чалавека гэта – не ёсць унутраная справа той ці іншай дзяржавы. Іншымі словамі, няма і не можа быць нейкага "свайго погляду" на гэтую праблему. Ёсць агульны падыход, агульныя нормы і патрабаванні, якія трэба выконваць, каб дзяржаву прызнавалі цывілізаванай. Нагадаць пра гэта, яшчэ раз пацвердзіць, што, нягледзячы на адмену санкцый, Еўрасаюз не здымае праблему правоў чалавека з парадку дня, і было галоўнай мэтай візіту ў Мінск Стаўраса Ламбрынідзіса.

З Аляксандрам Лукашэнкам яны гаварылі тры гадзіны. З крыніц у атачэнні еўрапейскага спецпрадстаўніка "Народнай Волі" стала вядома, што па працягласці гэта сустрэча можа прэтэндаваць на рэкорд, бо звычайна кіраўнікі дзяржаў значна больш хутка разумеюць важнасць такой праблематыкі. Якімі будуць вынікі размовы, сказаць цяжка. Але відавочна, што Аляксандр Лукашэнка вагаецца. З аднаго боку, быць "апошнім дыктатарам Еўропы" аказалася эканамічна нявыгадна і стратэгічна неперспектыўна. З другога боку, кіраваць краінай, у якой людзі павінны радавацца ўжо таму, што жывыя і не губляюць прытомнасць ад голаду, гэта значнае спрашчэнне абавязкаў прэзідэнта. Але ці ўдасца так?..

У любым выпадку на дадзены момант можна канстатаваць, што беларускія ўлады выказалі гатоўнасць да абмеркавання праблем з правамі чалавека. Менавіта гэта і засведчыў візіт. Хаця яшчэ год таму афіцыйны Мінск катэгарычна настойваў, што праблем з правамі чалавека ў нашай краіне не існуе і абмяркоўваць проста няма чаго. Пакуль гэта ўвесь "прагрэс"…

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ...

# Жыроўкі пералічаць



***1 сакавіка ў Адміністрацыю прэзідэнта быў адпраўлены праект указа «Аб удасканаленні сістэмы аплаты жыллёва-камунальных паслуг, якія аказваюцца насельніцтву». Што зменіцца?***

Згодна з праектам новага ўказа, тарыфы, якія субсідзіруюцца дзяржавай, застануцца практычна без змен за выключэннем водазабеспячэння і каналізацыі, а таксама тарыфаў на электраэнергію і прыродны газ.

Тарыф на водазабеспячэнне цяпер складае 4765,9 рубля за кубічны метр, а на водаадвядзенне – 4148,9 рубля. Такім чынам, агульны тарыф – 8914,8. Згодна з праектам новага ўказа, агульны тарыф павінен значна знізіцца – да 4653 рублёў (2790 рублёў – водазабеспячэнне і 1863 рубля – водаадвядзенне).

Таксама ў праекце ўказа прапісана, што тарыфы на цеплавую і электрычную энергію для насельніцтва, а таксама на газ прыродны і звадкаваны ўводзяцца адпаведна з пастановай Савета міністраў ад 30 снежня 2013 года. Гэта пастанова ўжо некалькі разоў удакладнялася ў сувязі з індэксацыяй некаторых тарыфаў. Апошні раз – 30 лістапада 2015 года з тарыфамі, якія ўступілі ў моц 1 снежня 2015 года. Але ў любым выпадку гэта значыць, што кошт электраэнергіі і газу павінен знізіцца.

Яшчэ адно змяненне ў выпадку прыняцця ўказа – плата за тэхнічнае абслугоўванне ліфта, санітарнае ўтрыманне дапаможных памяшканняў жылога дома будзе ўносіцца, зыходзячы з колькасці чалавек, «зарэгістраваных па месцы жыхарства ў жылым памяшканні, а таксама тых, што маюць права валодання і карыстання жылым памяшканнем камерцыйнага выкарыстання, прыватнага жыллёвага фонду па дагаворах найму».

Выканаўчы дырэктар Міжнароднай асацыяцыі менеджменту нерухомасці (МАМН) у Беларусі Генадзь Калёнаў лічыць, што калі гэта палажэнне застанецца ва ўказе, загалоўкі навін можна будзе рабіць такія: «У Беларусі багатыя жывуць за кошт бедных».

**Алена СПАСЮК.**

(naviny.by)

СУПЕРСДЕЛКА

# Так становятся миллионерами



Вчера это фото во всех мировых СМИ прошло под рубрикой «Фото дня». Основатель и глава крупнейшей в мире социальной сети Facebook Марк Цукерберг выложил короткий видеоролик, в котором поприветствовал команду Masquerade, создавшую мобильное приложение MSQRD, позволяющее накладывать разнообразные эффекты на видео- и фотоизображение лица пользователей.

В 30-секундном видео Цукерберг появился в маске супергероя классических комиксов «Железного Человека». «Добро пожаловать, ребята!» – такими словами один из богатейших людей планеты поприветствовал разработчиков, которые теперь присоединились к команде «Фейсбук».

С особым волнением это видео смотрели в Гродно. Сооснователи стартапа «Маскарад» – гродненцы Сергей Гончар, Евгений Невгень и россиянин Евгений Затепякин – работали над собственной технологией трекинга лиц уже пять лет. Хотя само приложение MSQRD было разработано всего за 48 часов на форуме разработчиков Garage48, который проходил в Минске в конце ноября 2015 года. Идея видеочатов вообще очень популярна в мире, а идея предстать перед собеседником в любом образе, в любой маске (собственно, это и есть суть программы «Маскарад») стала просто хитовой. Всего за два месяца основанная в Минске команда добилась чрезвычайной популярности своего продукта. Неофициально известно, что белорусский ИТ-предприниматель Юрий Гурский был единственным инвестором – он вложил в проект молодых коллег миллион долларов и, как теперь видно, не прогадал. Сейчас эксперты оценивают стоимость сервиса MSQRD в промежутке между 10 млн и 120 млн долларов.

Кстати, до сообщения о поглощении команда Masquerade состояла из 12 человек. Сумма сделки не разглашается, но известно, что основатели стартапа теперь перейдут на работу в лондонский офис Facebook.

Молодцы, ребята! Не забывайте родину!

**Олег СНОВ.**

ПИСЬМА С КРЕЩАТИКА



Александр ФЕДУТА

# Надежда не умрет

Суд над летчицей и депутатом Верховной Рады Украины Надеждой Савченко в городе Донецке Ростовской области может иметь последствия для российско-украинских отношений большие, нежели любое другое событие, включая аннексию Крыма.

О том, что Донецков – два, не знает сейчас только глухослепой гражданин Украины. В одном идет война, в другом идет суд – и это главные темы всех, без исключения, украинских медиа. Судьба Надежды Савченко, военнослужащей вооруженных сил Украины, которая была похищена, вывезена на территорию России и предана там суду, и сам суд, который 3 марта не дал ей выступить с последним словом.

Реакцию можно было предвидеть. Несказанная речь Савченко немедленно появилась в интернете, а сама подсудимая объявила о начале сухой голодовки до того момента, пока ее не передадут украинским властям.

Сухая голодовка – это отказ не только от пищи, но и от воды. Обезвоживание организма – необратимый процесс, в результате которого человек гибнет значительно быстрее. Речь не о неделях – о неделе. Фактически Савченко объявила о готовности покончить с собой.

Президент Петр Порошенко, встретившись с матерью Надежды Марией Ивановной Савченко, пообещал сделать все возможное, чтобы не допустить трагедии, и обратился к украинской летчице с просьбой прекратить голодовку. С последним словом Савченко выступила 9 марта, а вчера ее адвокаты сообщили, что она прекратила сухую голодовку, которая продолжалась 7 дней.

Но в данном случае гораздо важнее реакции президента Украины стала реакция украинского общества.

В Киеве прошел большой митинг в поддержку пленной. Митинг завершился походом колонны к посольству России, где его участники забросали здание посольства яйцами.

В качестве ответной нелюбезности собрался митинг в Москве, и его участники забросали яйцами посольство Украины.

Эти трагикомические действия можно было бы считать бессмысленными, если бы за ними не виделась возможность других, гораздо более масштабных. Об этом заявил на своей странице в «Фейсбуке» бывший губернатор Донецкой области народный депутат Украины Сергей Тарута. По его мнению, смерть Савченко в плену – или даже на родине, но вследствие объявленной ею сухой голодовки протеста – неизбежно приведет к росту конфронтации, вплоть до того, что никто не сможет ручаться за безопасность сотрудников посольства России и членов их семей.

Резня в посольстве России в Тегеране в 1829 году, когда погибли практически все сотрудники миссии, включая полномочного министра-посланника Александра Грибоедова, показывает, что, собственно говоря, и такой вариант развития событий нельзя исключать. Однако если власти страны пребывания действительно хотят погрома в посольстве, они не предупреждают о его возможности. Посему можно, разумеется, считать, что запущена страшилка.

Вот только Сергей Тарута – не тот человек, через которого такую страшилку можно запустить. Он человек серьезный.

Когда после аннексии Крыма и начала противостояния в Донбассе исполняющий обязанности президента Украины Александр Турчинов обратился к ряду олигархов с просьбой возглавить регионы, где их бизнес-интересы имеют реальное выражение в большом числе работающих на их предприятиях людей, откликнулись только двое: Игорь Коломойский возглавил Днепропетровскую область, Сергей Тарута – Донецкую. Результатом стала потеря Тарутой значительной части бизнес-активов в Украине (они как раз в зоне Донбасса и располагались) и практически всего бизнеса в России. Можно сказать, что больше Таруты потеряли в ходе этой войны лишь те, у кого погибли близкие: он заплатил капиталом, они – жизнью.

Именно поэтому, когда владелец практически разоренного «Индустриального союза Донбасса» предупреждает о возможном нарастании напряженности, он знает цену своих слов. Ни Таруте, ни многим другим представителям крупного, среднего и малого бизнеса не нужна эта эскалация. Не нужна она и тем, кого принято называть «простыми украинцами». Как мне кажется, подавляющее большинство представителей украинского общества восприняло бы освобождение Надежды Савченко как попытку российских властей начать реальный диалог в поисках примирения с Украиной. Но чем дальше, тем туже завязываются многочисленные узлы на канате, разделяющем два государства. И стихотворение девушки с Майдана «Никогда мы не будем братьями…», обращенное к россиянам, похоже, все больше и больше становится реальностью.

Нужно сказать, однако, что в России не все готовы бросать яйцами в украинское посольство или консульство. В Санкт-Петербурге в воскресенье также состоялась акция – за освобождение Надежды Савченко. Немногочисленная горстка интеллигентов вышла с плакатами на пикеты. Их никто не бил и не арестовывал. Вышли люди, выступающие за жизнь чужой им женщины, чье мужество и патриотизм очевидны каждому. Они стояли вдоль Невского. Кто-то из прохожих благодарил их, кто-то спрашивал, сколько им заплатили. Я знаком с некоторыми из них лично – это вполне состоявшиеся люди, не получающие грантов и подачек от партий: ученые, инженеры, литераторы.

В комментариях к этой новости на моей странице в «Фейсбуке» один из посетителей процитировал: «Господь сказал: если Я найду в городе Содоме пятьдесят праведников, то Я ради них пощажу все место сие». В Петербурге нашлось три десятка. Все-таки – не Содом.

И хотя война в Донбассе – не моя война и я лишь наблюдаю за ее ходом с Крещатика, о чем время от времени и пишу для «Народной Воли», мне тоже очень хочется, чтобы она побыстрее закончилась. Чтобы Надежда не умерла.

Это важно для каждого из нас – чтобы надежда не умерла.

ДЫСКУСІЙНАЕ ПЫТАННЕ

# Распусціць «расстрэльную каманду»!

***Прадстаўнікі Еўрасаюза заклікаюць Беларусь менавіта да гэтага***

Беларусь, як ніколі раней, наблізілася да вырашэння пытання ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Упершыню ў Мінску гэта абмеркавалі на самым высокім узроўні з прадстаўнікамі дыпламатычных місій, духавенства і чынавенства на міжнароднай канферэнцыі «Смяротнае пакаранне: пераадоленне рознагалоссяў». Чаму менавіта цяпер?

**Мікалай САМАСЕЙКА**, дэпутат Палаты прадстаўнікоў і старшыня рабочай групы парламента па вывучэнні смяротнай кары як інструмента пакарання, сказаў "Народнай Волі": "*Проста цяпер самы зручны момант для гэтага. У нас адбываецца пацяпленне адносін з Захадам*". У той жа час беларускі бок усяляк пераконвае, што ніякага гандлю не будзе. «*Мы не на базары. Я разумею, што можа быць рознае стаўленне да перамоў палітыкаў. Але ні пра які гандаль гаворка не ідзе*», – заявіў намеснік старшыні МЗС Беларусі **Валянцін РЫБАКОЎ**.

Аднак менавіта гандаль гэта больш за ўсё і нагадвае. Бо для паляпшэння адносін з Захадам Беларусь павінна зрабіць нейкі сур'ёзны крок у сферы паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека. Правесці празрыстыя дэмакратычныя выбары?.. Дазволіць сапраўдную свабоду сходаў, страйкаў, мітынгаў?.. Забяспечыць рэальную, а не дэкларатыўную свабоду слова?.. Наўрад ці. А вось мараторый на смяротнае пакаранне – гэта тое, на што ўлада можа пайсці без сур'ёзных палітычных наступстваў.

Варта прыгадаць, што Беларусь у 1996 годзе пасля правядзення рэферэндуму, вынікі якога не прызнала міжнародная супольнасць, пазбавілася статусу спецыяльна запрошанага ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Але ў чэрвені 2009 года ПАСЕ прыняла рэзалюцыю аб вяртанні запаветнага статусу, праўда, пры выкананні пэўных умоў, сярод якіх была і адмена смяротнага пакарання.

Спецпрадстаўнік ЕС па правах чалавека **Стаўрас ЛАМБРЫНІДЗІС** назваў канферэнцыю гістарычным момантам. «*На сёння большасць краін у свеце ўжо адмянілі смяротнае пакаранне. Паглядзіце на лічбы: у 1965 годзе такіх дзяржаў было 9, у 1978-м – 16, у 2016 годзе – іх больш за 150. Аднак па-ранейшаму актуальным застаецца пытанне, чаму Беларусь прымяняе смяротнае пакаранне. Бо астатнія 28 краін у Еўропе адмовіліся ад выключнай меры пакарання*», – зазначыў ён. Палітык прыгадаў, што шматлікія даследаванні засведчылі, што ўжыванне смяротнага пакарання ніякім чынам не ўплывае на змяншэнне ўзроўню злачыннасці.

**Андрэа РЫГОНІ**, спецдакладчык Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па сітуацыі ў Беларусі, заклікаў беларускіх дэпутатаў паўплываць на сітуацыю, каб увесці мараторый хаця б на адзін год.

"*Лепш быць дэпутатамі-героямі ў краіне, чым кіраваць кансерватыўным грамадствам*", – сказаў ён.

Пры гэтым ён запэўніў: "*Мы не патрабуем выбіраць паміж Еўрасаюзам і Расіяй. Гэта не наша задача. Беларусь павінна сама знайсці сваё месца. Але мы заклікаем да крокаў у бок захавання правоў чалавека*".

**Любоў ЛУНЁВА.**

СКАЗАНА!

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## *«У 60 гадоў мужык – гэта конь, на якім можна яшчэ араць, і плугам не ў адзін корпус, а ў тры корпусы зачапіць – і пацягне»*



– 55–60 гадоў – гэта нармальны ўзрост. І скажы жанчыне, што яна старая ў 55 гадоў або пенсіянерка... Слухайце, пакрыўдзіцца! А калі мы прапануем: калі ты не старая, не пенсіянерка, давай папрацуй – іншае нейкае меркаванне. Тое ж самае і пра мужыкоў можна сказаць. Яны дэманстратыўна не крыўдзяцца, але ў душы... У 60 гадоў мужык – гэта конь, на якім можна яшчэ араць, і плугам не ў адзін корпус, а ў тры корпусы зачапіць – і пацягне.

Не хачу ўжо тут казаць пра нашых славутых прадстаўнікоў сілавых структур, якія сёння ў прынцыпе ў 45 гадоў могуць сысці на пенсію. 90 працэнтаў з лішнім могуць сысці ў 45 гадоў на пенсію. І што ж гэта за пенсіянер у 45 гадоў?! Думаю, будзе справядліва, калі пытанне павышэння пенсіённага ўзросту закране ўсіх.

*(З выступлення падчас правядзення нарады з урадам 10 сакавіка 2016 года.)*



*Сярэдні заробак працаўнікоў беларускіх прадпрыемстваў за першы месяц 2016 года склаў у эквіваленце 327 доляраў.*
*У параўнанні са снежнем ён упаў на 85 доляраў.*
*А дзе тыя 1000 доляраў, якія некалі абяцалі ўлады?*



АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Три варианта
## повышения пенсионного возраста

Начать предлагают с 1 января 2017 года.

**Первый вариант** предполагает возраст выхода на пенсию для женщин – 60 лет, для мужчин – 65. Министр труда и соцзащиты Марианна Щеткина отметила, что это самый экономически приемлемый вариант.

**Второй вариант** был разработан с учетом демографических процессов: по нему женщины будут выходить на пенсию в 60 лет, мужчины – в 63 года. «*Здесь за основу бралось прежде всего то, что сегодня средняя продолжительность жизни женщин составляет 78,4 года, а срок получения пенсии – более 20 лет после выхода на пенсию*», – отметила министр.

**Третий вариант** предполагает выход на пенсию женщин с 58 лет и мужчин – с 63.

Что касается темпа увеличения пенсионного возраста, то, по мнению министра, «*сегодня самый небольшой темп, который мы можем себе позволить, – это 6 месяцев*».

